# Голас душы

Яднанне ў любові

№ 36 (219)
Субота, 9 верасня 2006 г.

Штотыднёвы хрысціянскі бюлетэнь


# 14 ВЕРАСНЯ – СВЯТА УЗВЫШЭННЯ СВЯТОГА КРЫЖА

***У гэты ўрачысты дзень у касцёлах асвячаюцца крыжы, крыжыкі, медалікі. Касцёлы Узвышэння святога крыжа ёсць у Мінску на Кальварыйскіх могілках і ў Вілейцы. Капліца-вагончык Узвышэння святога крыжа ёсць і ў Чэрвені і ў іншых мясцовасцях Беларусі.***



Штогод 14 верасня ўвесь хрысціянскі свет ушаноўвае і адзначае ўрачыстасць Узвышэння святога крыжа, на якім быў укрыжаваны Ісус Хрыстос. Язычнікі ў лютай нянавісці да хрысціян стараліся знішчыць усё, што датычылася памяці аб Ісусе Хрысце. Месца ўкрыжавання, грот, дзе быў пахаваны Ісус Хрыстос і ўваскрос, яны засыпалі друзам і каменнем.

Маці імператара Канстанціна (325 г.) святая Алена прысвяціла сваё жыццё пошукам крыжа і ўрэшце з вялікімі цяжкасцямі адшукала месца ўкрыжавання Ісуса Хрыста. Былі адкапаны тры крыжы, і каб устанавіць крыж, на якім памёр наш Збаўца, прывезлі смяротна хворага чалавека і па чарзе клалі яго на крыжы. Першыя два не далі ніякіх вынікаў, а калі хворага паклалі на наступны, трэці крыж, чалавек адразу выздаравеў.

Урачыстасць адшукання святога крыжа адзначаецца 3 траўня.

У габрэяў быў звычай: разам з пакаранымі на смерць закопваць і прылады выканання кары. Таму разам з крыжамі былі адкапаны цвікі і дошка з надпісам. Усе цвікі, акрамя трох, былі іржавыя, а тры цвікі былі як новыя. Вось такім чынам святая Алена знайшла святы крыж. На месцы ўкрыжавання потым пабудавалі касцёл, частка крыжа была змешчана ў гэтым касцёле, а другая частка захоўваецца ў спецыяльна пабудаваным у Рыме храме святога Ерусалімскага крыжа. Часцінкі святога крыжа захоўваюцца ў многіх святынях свету.

Падчас персідскай вайны (615 г.) Ерусалім быў захоплены персамі, абрабаваны, былі знішчаны амаль усе хрысціянскія святыні, больш за 80 000 чалавек замардавана, узяты ў палон патрыярх Ерусаліма Захарыя і захоплена найвялікшая святыня – Дрэва крыжа ў срэбраным футляры.

Персы – язычнікі, яны мелі намер спаліць святое Дрэва крыжа ў ахвяру сваім багам,

але Усявышні захаваў святыню хрысціян, бо ніводзін перс не змог дакрануцца да рэліквіі.

Пасля паражэння персы былі вымушаны прыняць умовы прымірэння. Вядома, першым патрабаваннем было вяртанне рэліквіі – Дрэва святога крыжа, вызваленне патрыярха Захарыя і ўсіх палонных. Усе патрабаванні былі выкананы. У 618 г. святая рэліквія з вялікай пашанай была перавезена спачатку ў Канстанцінопаль, а затым у 629 годзе – у Ерусалім.

Бог пажадаў узвысіць справу збаўлення і цудоўным шляхам аб'явіў моц святога крыжа: 14 верасня 629 года быў уваскрэшаны адзін памерлы, аздароўлены чатыры паралізаваныя, вернуты зрок пятнаццаці сляпым, ачысціліся ад праказы дзесяць хворых. У памяць аб гэтых цудах была ўстаноўлена ўрачыстасць Узвышэння святога крыжа – 14 верасня. Хрыстос перад сваёй крыжовай смерцю сказаў: *«І Я, калі буду ўзнесены над зямлёю, паклічу ўсіх да сябе»* Ян. 12, 32.

Святы крыж – гонар усіх хрысціян свету, гэта штандар усіх, хто вызнае Хрыста. Кожны народ мае свае сімвалы, свой герб, свой сцяг. Без ушанавання свайго герба, свайго сцяга няма нацыі, няма народа. Герб і сцяг хрысціян – гэта крыж Госпада нашага Ісуса Хрыста. Як герб і сцяг кожнага народа заўсёды на першым месцы, так і ў хрысціян, святы крыж заўсёды на першым месцы: першым ідзе ў працэсіі, першым суправаджае нябожчыка на могілкі, на ўсіх хрысціянскіх храмах на вежах мы бачым крыжы. Нашыя бацькі ставілі крыжы на скрыжаваннях дарог, упрыгожвалі іх кветкамі, вянкамі, каляровымі стужкамі, першымі вянкамі з дажынкаў.

Крыж дома размяшчаюць на сцяне, на самым бачным месцы, знак крыжа мы робім перад малітваю, прыняццем ежы, перад працаю і пасля працы.

Крыж на могілках – сведчанне таго, што пад ім спачывае хрысціянін. Крыж распасцірае свае рамёны над памерлым і бароніць ад злога духа. Крыж сведчыць, што і на гэтым кавалачку зямлі Хрыстос перамог сваёй выратавальнай моцай і ласкай.

Не цураймася нашага хрысціянскага сцяга – святога Крыжа, не забываем жагнаць сябе знакам крыжа, распачынаючы і заканчваючы дзень, кожную справу, працу, перад і пасля прыняцця ежы, ідучы на спачын ці ўстаўшы са сну. Мы жагнаемся, калі выходзім да працы, у дарогу, бо крыж – наша апека і надзея. З крыжам мы пераможам спакусу і грэх, крыж давядзе нас да жыцця вечнага ў славе Божай.

Аб вялікай пашане да святога Крыжа гаворыць і тое, што нашы продкі, праходзячы каля крыжа альбо каля храма ці могілак, заўсёды аддавалі пашану, жагналіся, здымаючы галаўны ўбор.

Чалавек, які пачынае дзень са знакам крыжа, не пойдзе красці, не будзе ашукваць і зневажаць бліжняга, будзе заўсёды добрасумленна выконваць свае абавязкі, бо сапраўды веруючы не будзе ганьбіць свой сцяг – святы Крыж.

З таго часу, як быў знойдзены крыж, на якім пакутаваў і памёр Ісус, было забаронена пакаранне крыжовай смерцю. І з той пары святы Крыж вельмі ўшаноўваецца, бо на гэтым крыжы Сын Божы здзейсніў справу бязмежнай любові і міласэрнасці да людзей.

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

# АДКРЫЦЦЁ НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЫ

**10 верасня 2006 г. урачыстай святой Імшой на 11.00 распачынаецца новы навучальны год у Нядзельнай школе касцёла св. Сымона і св. Алены.**

**Дарагія дзеткі і моладзь! Запрашаем вас на катэхізацыю ў 2006/2007 н.г. Падрыхтоўка да Першай Святой Камуніі будзе ажыццяўляцца паводле прыведзенага ніжэй раскладу. Дзяцей і моладзь 3-11 класаў школы запрашаем звяртацца да сваіх катэхетак пасля лінейкі, прысвечанай адкрыццю Нядзельнай школы.**

## РАСКЛАД ЗАНЯТКАЎ Ў НЯДЗЕЛЬНАЙ ШКОЛЕ

| Дзень тыдня | Імя і імя па бацьку катэхеткі | Час катэхезы | Клас |
|---|---|---|---|
| Аўторак | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |
| Серада | Марыя Чаславаўна | 10.00, 18.00 | 1 |
| | | 19.00 | 2 |
| Чацвер | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |
| Субота | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | дзеці 3-6 год |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 09.45 | 1 |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 10.00 | 1 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 10.00 | 2 |
| Нядзеля | Галіна Пятроўна | 10.00 | моладзь |
| Нядзеля | Алена Канстанцінаўна | 12.30 | 2 |
| Нядзеля | Алена Рафаілаўна | 12.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 14.30 | дарослыя |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 15.30 | 1 |
| Нядзеля | Ганна Раманаўна | 16.00 | «Гасанна» |
| Нядзеля | Галіна Станіславаўна | 18.00 | 2 |
| Нядзеля | Наталля Уладзіміраўна | 18.00 | 2 |

# НАБАЖЭНСТВА ПАДЗЯКІ Ў ГРОДНЕ

***27 жніўня 2006 г. а 12-й гадзіне ў гродзенскай катэдральнай базыліцы адбылося набажэнства падзякі з нагоды трохсотгоддзя пабудовы гэтай велічнай святыні і першай гадавіны каранацыі цудатворнага абраза Маці Божай Кангрэгацкай (Студэнцкай).***

Урачыстую святую Імшу цэлебраваў Апостальскі Адміністратар Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі біскуп Антоній Дзям'янка.

Ва ўрачыстасці бралі ўдзел шмат прадстаўнікоў духавенства, клерыкі Гродзенскай вышэйшай духоўнай семінарыі і шматлікія вернікі. Усіх прысутных прывітаў ардынарый Гродзенскай дыяцэзіі біскуп Аляксандр Кашкевіч. Ён нагадаў пра той урачысты момант, калі напрыканцы мінулага лета кардынал Казімір Свёнтэк усклаў на цудатворны абраз Маці Божай Кангрэгацкай залатыя кароны. Тады на пагорку каля найстарэйшага ў Гродне пабернардынскага касцёла, дзе ў прысутнасці Нунцыя Святога Пасаду арцыбіскупа Марціна Відавіча, біскупаў, святароў, прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў Рэспублікі Беларусь і дыпламатычных місій у нашай краіне, а таксама ўсіх парафій Гродзенскай дыяцэзіі праходзіла каранацыя, сабраліся дзесяткі тысяч вернікаў, каб выказаць сваю падзяку Найсвяцейшай Панне Марыі, якая на працягу стагоддзяў апекавалася іх горадам.



Біскуп Антоній Дзям'янка ў сваёй гаміліі нагадаў, што каранацыя абраза абавязвае нас заўсёды быць паслухмянымі Маці Божай. Асабліва важна ў наш час захаваць святасць і непарушнасць сям'і. Апостальскі Адміністратар, у прыватнасці, сказаў:

«Гэтая выява Маці Божай на працягу многіх гадоў была ў пашане ў Кангрэгацыі студэнтаў гродзенскага езуіцкага калегіума. Спрадвеку ў Марыі бачылі ўзор Выхавацелькі, узор Маці, якая стварае дамашні ачаг, напоўнены любоўю да Дзіцяткі Езуса і пашанаю да святога Юзафа.

Сённяшняя моладзь магла б узяць прыклад сямейнага жыцця, углядаючыся у Святую Сям'ю. Слуга Божы Ян Павел II у сваім вучэнні заахвочваў абуджаць цікавасць да жыцця Святой Сям'і, бо яе «выхаваўчы вопыт з'яўляецца беспамылковым арыенцірам для хрысціянскіх бацькоў, якія ва ўсё больш цяжкіх і складаных умовах павінны служыць цэласнаму развіццю асобаў сваіх дзяцей такім чынам, каб яны вялі жыццё, годнае чалавека і адпаведнае Божай задуме».

Ужо з маладосці трэба задумвацца над тым, чым з'яўляецца сужэнскае каханне, сям'я, выхаванне, бо мы жывем у асяроддзі, дзе прапагандуюцца кепскія прыклады. Калі мы не сфармуем у сабе адпаведнага бачання сям'і, на нас будуць уплываць гэтыя кепскія прыклады, што плодзіць цывілізацыя смерці».

*Catholic.by*

# АДАРАЦЫЯ ДЛЯ ТУРЫНСКАЙ ПЛАШЧАНІЦЫ

Як заўсёды, у 19 гадзін у суботу адбылася маладзёжная Імша. Святую Імшу служыў ксёндз Канстанцін. У ёй таксама ўдзельнічаў новы ксёндз-дыякан нашай парафіі – Віктар. Пасля Імшы распачалася Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Адараваў Хрыста разам з вернікамі ксёндз Анджэй.

Каб была блізкасць духоўная, павінна быць блізкасць фізічная. Таму ўсе людзі, якія засталіся на набажэнства, сабраліся разам каля алтара. На пачатку моладзь разам з парафіянамі праслаўляла Бога сваім прыгожым, поўным веры і любові да Яго, спевам, а ўжо пасля ўсе разам узнеслі Яму хвалу праз малітву.

У часе святой Адарацыі кожны



сустрэўся з Таямніцай бясконцай любові Езуса Хрыста да ўсіх нас. Усе прысутныя тут узносілі свае падзякі і просьбы, складалі на алтар усё тое, што мелі ў сэрцах. Касцёл напоўніўся спевам і малітвай, як супольнай, так і асабістай. Асабліва прымусіла мяне задумацца наступная малітва-разважанне:

Не магу вытлумачыць таго,
Што ёсць таямніцай...
Не магу зразумець таго,
Што ёсць бясконцым...
Але як жа я хачу любіць Таямніцу,
Якая ёсць бясконцай любоўю!..

У канцы набажэнства мы атрымалі Божае благаславенне з рук святара, падзякавалі за супольную малітву, усміхнуліся і моцна паціснулі адзін аднаму рукі.

*Улада Неверовіч*

# З БОГАМ У НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

***Трэцяга верасня, у нядзелю ва ўсіх касцёлах Беларусі адбываліся ўрачыстыя набажэнствы, прысвечаныя пачатку навучальнага года. Асвячаліся падручнікі, дзённікі, алоўкі і сшыткі, а, галоўнае, асвячаліся ўладальнікі ўсіх гэтых рэчаў – вучні і вучаніцы, студэнты і настаўнікі.***

Нязвыкла, вельмі ўрачыста праходзіла Імша ў Чырвоным касцёле св. Сымона і Алены. На нямецкай мове, у суправаджэнні легендарнага мужчынскага хору з Германіі. У складзе амаль 100 чалавек хор браў удзел у Імшы, сваімі гучнымі галасамі і непараўнальнымі спевамі ўпрыгожваючы набажэнства.

Гэта мужчынскі хор нямецкай кампаніі «Дойц» з Кёльна. Хор быў створаны ў 1946 годзе ў Кёльне. Першапачаткова ў ім спявала толькі 8 чалавек, цяпер жа колькасць хору складае больш за 100 удзельнікаў. Кіраўніком хору з 2000 года з'яўляецца Хайнц Вальтар Флорын. Суправаджае выступленне хору цудоўны арганіст Штэфан Пльм, а саліруе бас Хельмут Вурт. Калектыў шырока вядомы ў Германіі дзякуючы рэпертуару свецкай і духоўнай музыкі, шматлікім тэле - і радыёэфірам.

Хор кампаніі «Дойц» таксама вядзе актыўнае гастрольнае жыццё. Напярэдадні свайго шасцідзесяцігадовага юбілею хор адправіўся ў турнэ ў Санкт-Пецярбург і Маскву. І хаця праграма выступленняў распісана літаральна па хвілінах, жыхарам Мінска вельмі пашанцавала.

2 верасня хор даў канцэрт духоўнай музыкі ў Архікатэдральным касцёле Найсвяцейшай Панны Марыі, а 3 верасня з удзелам і ў суправаджэнні гэтага хора адбылася Імша ў касцёле св. Сымона і Алены, пасля якой вернікам прапанавалі яшчэ паслухаць найцудоўнейшых спеваў.



Акрамя сакральных твораў у часе Імшы, хор выканаў творы старадаўніх і сучасных кампазітараў. У рэпертуары хору як праваслаўныя, так і іншыя хрысціянскія спевы, а таксама народныя нямецкія, французскія і песні іншых народаў. Перад прысутнымі вернікамі хор выканаў спевы, прысвечаныя Панне Марыі, творы, усхваляючыя Госпада Ісуса Хрыста, прагучаў таксама твор рускага кампазітара Дзмітрыя Бартнянскага «Табе спяваем» і рускі праваслаўны спеў. Псальмы і рамансы, духоўныя гімны, творы італьянскіх, аўстрыйскіх, нямецкіх кампазітараў гучаць у выкананні хору. Дыяпазон гучання хору мае неабмежаваныя магчымасці. То, здаецца, уся прастора касцёла запаўняецца зладжанымі галасамі, і чуеш не паўсотні галасоў, а тысячы. То спеў сцішаецца, і ты чуеш, як быццам пяе ўсяго тры чалавекі, а падымаеш вочы і бачыш, што спявае ўвесь склад.

Вернікі, жыхары Мінска, творчая моладзь і людзі, неабыякавыя да высокага мастацтва, удзячны арганізатарам гэтых канцэртаў на Беларусі.

Славуты хор, выдомы ва ўсім свеце, у шчыльным графіку сваіх гастроляў знайшоў час, каб наведаць цудоўную краіну Беларусь і даць канцэрты ў касцёлах яе сталіцы. А, можа, каму-небудзь удзел у Імшы на пачатак навучальнага года з'явіцца штуршком да вывучэння нямецкай і іншых замежных моў, да набыцця больш дасканалых ведаў, да пазнавання і знаёмства з гісторыяй нашай і суседніх краін.

У сваю чаргу пры развітанні ўдзельнікі хору падзякавалі за шчыры прыём, за знаёмства з гісторыей касцёла, пададзенай спецыяльна для гасцей на нямецкай мове, і падаравалі парафіянам касцёла св. Сымона і Алены фота і буклет з гісторыяй хору «Дойц АГ».

*Ала Неверовіч*

## УЧАСТВУЙТЕ В МЕССЕ!

***В Италии: плакаты с призывом участвовать в Мессах устанавливают вдоль шоссе.***

Молодые итальянцы из движения «Утренние стражи» реализуют уникальный проект «Миссия возможна». В рамках своей инициативы вдоль шоссе возле Болоньи они размещают плакаты, призывающие путешествующих участвовать в Мессах и Евхаристических адорациях. По сообщениям агентства Korazym, молодежь этого движения организовала две Мессы в часовне, расположенной возле шоссе между Болоньей и Миланом. В течение дня юноши и девушки приглашали проезжающих уделить несколько минут Евхаристической адорации. В результате в богослужениях приняло участие большое количество путников. Вечером христианская музыкальная группа представляла путешествующим свои произведения. Многие водители останавливались, чтобы помолиться и получить таинство Исповеди.

О. Андреа Бруньолли, который оказывал духовное наставление «Утренним стражам», отметил, что представители данного движения несут свою миссию в барах, клубах, а также среди социально неблагополучных групп населения.

*Agnuz*

# СЛОВА БОЖАЕ Ў НЯДЗЕЛЮ

## 10 ВЕРАСНЯ, 23 ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

## ЧЫТАННЕ КНІГІ ПРАРОКА ІСАІ

*(Іс 35, 4-7а)*

Скажыце маладушным:
«Будзьце адважнымі! Не бойцеся!
Вось Бог ваш, помста прыйдзе;
адплата Божая.
Ён сам прыдзе і збавіць вас.
Тады вочы сляпых будуць бачыць,
і вушы глухіх адкрыюцца.
Тады кульгавы, як алень, падскочыць,
і язык нямых усклікне радасна.
Бо пачнуць біць крыніцы вады ў пустыні,
і патокі ў стэпах;
засохлая зямля ператворыцца ў возера;
бязводнае месца ў крыніцы вады.

***Лектар:*** Гэта слова Божае.
***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

## ПСАЛЬМ

*(Пс 146 (145), 7. 8-9а. 9бс-10 (Р.: 1))*

***Рэфрэн: Хвалі, душа мая, Госпада Бога***

Ён справядліва судзіць пакрыўджаных,
хлеб дае пакорным, *
Госпад вязняў
вызваляе.

**Рэфрэн**

Госпад вяртае зрок сляпым, *
Госпад роспачных уздымае,
Госпад праведных любіць, *
Госпад абараняе чужаземцаў.

**Рэфрэн**

Госпад ахоўвае сіротаў і ўдоваў, *
але грэшных кіруе на бездарожжа.
Госпад валадарыць навекі, *
твой Бог, Сіёне, з пакалення ў пакаленне.

**Рэфрэн**

## ЧЫТАННЕ ПАСЛАННЯ СВЯТОГА АПОСТАЛА ЯКУБА

*(Як 2, 1-5)*

Браты мае, няхай ваша вера ў Госпада нашага Ісуса Хрыста, услаўленага, не зважае на асобы. Бо калі б прыйшоў на вашу сходку чалавек, аздоблены залатымі пярсцёнкамі, багата апрануты, і прыбыў таксама чалавек бедны, у бруднай вопратцы, а вы паглядзіце на багата апранутага і скажаце: «Сядай на ганаровым месцы!», а беднаму скажаце: «Ты стань там, альбо сядзь каля падножжа майго!», дык ці не робіце розніцы паміж сабою і ці не робіцеся двудушнымі суддзямі?

Паслухайце, мае любыя браты! Ці ж не бедных выбраў Бог на гэтым свеце быць багатымі ў веры і спадкаемцамі валадарства, абяцанага тым, хто любіць Яго?

***Лектар:*** Гэта слова Божае.

***Усе:*** Дзякуем Госпаду Богу.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

Ісус абвяшчаў Евангелле аб Валадарстве
і лячыў усялякую немач у людзей.

***Алелюя! Алелюя! Алелюя!***

## ✠ ЧЫТАННЕ СВЯТОГА ЕВАНГЕЛЛЯ ПАВОДЛЕ МАРКА

*(Мк 7,1-8. 14-15. 21-23)*

У той час:

Ісус пакінуў ваколіцы Тыра і праз Сідон прыйшоў да Галілейскага возера, праходзячы праз уладанні Дэкаполю. Прывялі да Яго глуханямога і папрасілі, каб паклаў на яго руку. Ён адвёў яго ўбок, далей ад натоўпу, уклаў Свае пальцы ў ягоныя вушы і дакрануўся слінаю да яго языка; і, глянуўшы на неба, уздыхнуў і сказаў яму: «Эффатха», што азначае: «Адкрыйся!» Адразу адкрыліся ягоныя вушы і развязаліся путы языка, і ён стаў выразна гаварыць.

Ісус загадаў ім, каб нікому не гаварылі. Але, чым больш Ён загадваў, тым старанней расказвалі яны пра гэта. З вялікім здзіўленнем казалі: «Добра зрабіў усё. Нават глухім вяртае слых і нямым – мову».

***Лектар:*** Гэта слова Госпада.

***Усе:*** Хвала Табе, Хрысце.

# СЛОВА СВЯТАРА

***Слава Ісусу Хрысту! Дарагія людзі!***

Ісус Хрыстос дае нам наказ, што любіць Бога трэба больш за ўсё на свеце. Жыццёвы прыклад гэтаму дае нам Найсвяцейшая Марыя Панна, якая з'яўляецца яскравым прыкладам для ўсіх нас. Яна не толькі Маці Ісуса Хрыста – Сына Божага, але і прыклад трывання ў Богу праз усё Сваё жыццё. Яна ідзе Дарогай Крыжоваю разам з Хрыстом, на Галгофе, пасля на малітве з Апос-таламі перад Спасланнем Святога Духа. Яна дае прыклад усім хрысціянам і чалавецтву, як трэба любіць Бога. Марыя служыць, раіць і натхняе, а ў Кане Галілейскай проста кажа: «Усё, што Мой Сын вам скажа – зрабіце-выканайце». Бо Яна сапраўды любіць Бога і хоча, каб усе людзі таксама любілі Усявышняга, творцу Неба і зямлі, для свайго зямнога і Нябеснага шчасця.

Ва ўчынках Марыі мы бачым выкананне гэтых найвышэйшых запаведзей – любові Бога і бліжняга па-над усім і па-над усё. Чалавек, любі Бога і бліжняга сэрцам, воляй, розумам. Бо хто нам даў жыццё? – Усявышні. Хто нам даў здольнасці, розум? – Усявышні. Хто нам надае сілы, што мы жывём? – Усявышні.

Паглядзіце, як уважліва выслухаў Хрыстос пытанне законніка *(Мц 22, 34-39)*: «Настаўнік, з таго мноства ўсіх запаведзяў, прадпісанняў, правілаў – якое найважнейшае, бо адно важнейшае за другое?» Ісус Хрыстос адказвае на пытанне ўважліва і сурёзна, спакойна і шчыра: «Палюбі Госпада Бога твайго ўсім сэрцам тваім, і ўсёй душою тваёю, і ўсім разуменнем тваім *(Другазак 6,5)*: гэта ёсць першая і найбольшая Запаведзь. Другая ж падобная ёй: «палюбі бліжняга свайго, як самога сябе» *(Лев 19,18)*. На гэтых двух Запаведзях утрымліваецца ўвесь Закон і прарокі *(Мц 22,40)*.

Колькі сёння маем заканадаўстваў, правілаў, патрабаванняў, прадпісанняў, законаў – гэта ўсё прадстаўлена, каб чалавек дзесь не ўпаў, не паслізнуўся. Калі будзеш выконваць, тады і будзеш жыць шчасліва. Закон прымушае нас жыць сумленна. Чалавек настолькі павінен любіць сваю зямлю, Бацькаўшчыну, народ, сваё здароўе, несмяротную душу і цаніць кожнага чалавека, каб у ім адлюстроўвалася Божая Веліч. Калі палюбіш моцна, больш за ўсё, Госпада Бога, тады ты ўзнósішся па-над усе напісаныя



чалавекам законы. «Любі Бога і рабі, што хочаш», – кажа святы Аўгустын. Калі ты па-сапраўднаму адданы Богу, ты ніколі Яго не пакрыўдзіш ані словам, ані ўчынкам, ані ў думках. Па-над усімі законамі існуе сапраўдная сумленнасць, а далей – святасць душы і жыцця. Мы ведаем – ёсць вера, надзея, любоў. Але ў вечнасці, церпячым душам у чыстцы, вера не патрэбна, яны Бога бачаць і жадаюць хутчэй з'яднацца з бясконцай і бязмежнай Божай любоўю. Вера пакідае чалавека адразу пасля яго смерці. Як першая ступень ракеты-насіцеля адстае ад галоўнага корпусу спутніка, у якім знаходзіцца чалавек.

Душам у чыстцы церпячым вера ўжо не патрэбна, а застаецца надзея. Надзея – так. Чысцовыя душы маюць надзею на Божую міласэрнасць і Божае прабачэнне. Але таксама з цягам часу адыдзе і надзея, калі атрымаюць пажаданае Божае прабачэнне і мажлівасць увайсці ў Валадарства Божае. Вера і надзея адыходзяць, любоў вечная. Госпад Бог хоча, каб чалавек праз веру і надзею набліжаўся да Яго.

Божае благаславенства – гэта не толькі знак крыжа, Божае благаславенства трывае ў кожным добрым учынку, у кожным добрым намеры, нават у кожным нашым цярпенні, калі чалавек, не наракаючы, зносіць тыя ці іншыя праблемы, цяжкасці, ці недахоп здароўя.

Вы не раз сустракалі ў жыцці людзей, якія нас здзіўлялі сваёй цярплівасцю. На чалавека звальваецца бяда, перажыванні, смерць блізкіх, родных, чалавек успрымае гэта сур'ёзна, але са згодай на волю Божую ў сэрцы і жыцці. Божае благаславенства заўсёды і над усімі. Апостал Павел кажа, што ў Богу мы існуем, жывем і ходзім-знаходзімся. Але праз свае недахопы, слабасці і грахі, недавер, малавер'е чалавек ўцякае з-пад Божага благаславенства, злы дух, так сказаць, выманьвае чалавека з-пад Божага благаславенст-ва, каб ён схлусіў, пакрыўдзіўся, крычаў і, глядзіш – перамог д'ябал. Калі ж чалавек цярпліва зносіць, тады ён стаіць, трывае пад гэтым парасонам Божай ласкі.

Мы не можам, не маем права казаць і думаць, што Усявышні адзін раз нас благаслаўляе, а другі раз – не. Гэта няправільна. Праз любы злы ўчынак, думку, слова, чын чалавек сам уцякае з-пад Божай ласкі, з-пад Божага благаславенства. Выманіў яго злы дух, таксама, як выманіў з раю Адама і Еву. Яны былі з Богам, пад Божым благаславенствам і апекай, былі шчаслівыя, жылі шчасліва. Падпаўзае злы дух і выманьвае: «Вазьмі, з'еш!» І з'елі, і «з трэскам выляцелі» з раю *(Быц 3)*. А што азначае наш прыход у святыню, рэгулярны ўдзел у набажэнствах, малітвы, нашыя дабраахвотныя пасты, пакуты, добрыя учынкі? Усё гэта азначае не што іншае, як: «Божа, прабач мне, пусці мяне назад, на тое благаслаўлёнае месца, якое чакае мяне ў Тваёй

прысутнасці!» Некаторыя людзі ходзяць па свеце, кажучы: «А мне і так добра!» Добра – на гэтым свеце.

Але тваё месца – святое месца, пад Божым блаславенствам, а там цябе няма. І чым ты можаш ганарыцца, што ўмееш есці і піць, ездзіць і лётаць? Мартышкі таксама ездзяць у цырку на конях, матацыклах. Што тут мудрага? Натрэніраваўся, навучыўся і добра. Што з нашай мудрасці ў свеце, калі нас няма там, дзе мы павінны быць цяпер і вечна – з Богам. Ведаеце, як страшна выглядае тая будыніна, дзе са сцяны выпала цагліна, плітка ці блок. А ў духоўным, Божым доме, кожны з нас мае сваё канкрэтнае месца-нішу.

Дзякуючы веры і любові Бога і бліжняга мы моцна трываем у духоўнай святыні Божай і мудра пражываем гэтае жыццё. Калі ж чалавек страціў набожнасць, дык ён страціў і будучыню, мае толькі кароценькае зямное жыццё. Без веры і дапамогі Усявышняга чалавек ніколі не зможа падняцца да духоўнай святыні Божай любові, як ніколі не падымецца сама цагліна, якая выпала са сцяны шматпавярховага дома.

Хрыстос, навучаючы людзей, меў галоўную прэтэнзію не да іх, а да першапрычыны граху, да сатаны. Хрыстос не прыйшоў, каб вылячыць усе нашы хваробы, а навучае нас разумець і асцерагацца ад першапрычыны хваробаў, а менавіта, пазбягаць грахоў і сатаны. Хрыстос асвячае сумленне і душу чалавека. Чалавек, дзякуючы абуджанаму сумленню, вяртаецца да прытомнасці і ідзе за Хрыстом, гэта значыць – вяртаецца ў тую святую нішу, дзе ён духоўна павінен быць. Чалавечая душа сама, па свайму стварэнню, паводле тэалогіі – хрысціянская. Як можа разумны чалавек выступіць супраць свайго шчасця – жыцця вечнага і душы, як можа чалавек сам сабе шкодзіць? Гэта альбо вар'ят, хворы, альбо апантаны. «Я не веру, мне гэта не трэба! Я не буду служыць!» – Хто так крычаў? – Сатана.

Ці адчуваеце, як сёння свет патрабуе малітвы, асвячэння, ачышчэння душ, людскіх сэрцаў ад напасцяў злога духа? Калі сёння, бачачы праяву бескультур'я, скажаш: «Так нельга рабіць, паступаць, гаварыць!», – можаш пачуць не вельмі прыемны адказ.

Вось прыклад. Кожнага вечара помнік Адаму Міцкевічу ў скверыку «аблеплены» маладымі хлопцамі і дзяўчатамі, якія сядзяць з бутэлькамі піва ў руках і з цыгарэтамі ў вуснах. Пустыя бутэлькі побач, пад нагамі ўсюды... Стаіць смурод, як у бочцы з-пад піва. П'яная брацця. Гэта ў парку, у сталіцы ля помніка! Здаецца, Міцкевіч сарамліва адварочваецца ад гэтага «садому», бо глядзіць убок, падняўшы высока галаву. Калі зрабіць маладым заўвагу – высмеюць!

У наш час, калі мы адчуваем уплыў злога, вельмі заахвочваю вас маліцца за людзей аб вызваленні з-пад улады сатанінскага апантання. Трэба часта чытаць малітвы-экзарцызмы людзям і над людзьмі. Просім ласкі і міласэрнасці Божай для ўсіх тых людзей, за якіх ніхто не моліцца.

Ісусе Хрысце, дапамажы нам быць сапраўды свабоднымі і вярнуцца пад Твае блаславенства, знаходзіцца на тым духоўным месцы, на якім мы павінны быць і ў жыцці, і ў вечнасці.

Маці Божая, пачуй, прымі з нашых сэрцаў вокліч аб дапамозе і праслаўленне з нашай зямлі, на якой славілі Бога жыццём і верай нашыя бацькі.

Крыж Хрыста, збаў нас! Амэн.

*Ксёндз Уладыслаў Завальнюк*

## КАЗКІ ДЛЯ ДАРОСЛЫХ

# ВЕДАЙ... НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК

Даўным-даўно Бог прыняў рашэнне, вельмі важнае рашэнне... І я так рады, што Ён прыняў яго, паколькі Бог вырашыў стварыць цябе.

Рукі, што стваралі зоркі, стварылі і цябе.

Рукі, што стваралі цясніны, стварылі і цябе.

Рукі, што стваралі месяц, сонца, дрэвы, стварылі і цябе.

Вось таму ты такая асаблівая. Бо цябе стварыў Бог. Ён ствараў цябе цалкам па-адмысловаму.

Ён зрабіў так, каб вочкі твае маглі бачыць.

Ён зрабіў так, каб губкі твае ўмелі ўсміхацца.

Ён даў табе смех, каб выяўляць радасць.

Ён зрабіў цябе непадобнай ні на каго. Абыдзі хоць цэлы свет – ні ў адной краіне, ні пад адным да-



хам – няма другой, такой, як ты:
з такімі ж вочкамі,
з такімі ж губкамі,
з такім жа смехам.

А паколькі ты такая асаблівая, такая непадобная ні на каго, то Бог захацеў, каб ты жыла там...

дзе б магла сагрэцца, калі змерзнеш,

дзе б табе ніколі не было страшна,
дзе б табе было весела.

Такім чынам, пасля доўгіх пошукаў прыдатнай сям'і Бог паслаў цябе мне. І я рады гэтаму.

Я ніколі не забуду тое першае імгненне, калі я ўбачыў цябе...

твае вочкі былі заплюшчаныя,

твае пальчыкі былі сціснутыя ў два маленькіх кулачкі,

твае шчочкі былі такія пухленькія, і ты была такая тоўсценькая, што я адразу зразумеў: Бог паслаў мне нешта цалкам дзіўнае,

